# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

23 кастрычніка 2020 года №43 (1330) 18+





# У Ручыцы рухнула капліца 18 стагоддзя

**Вілейскі райвыканкам лічыць, што яшчэ не ўсё страчана. Будуць умацоўваць дах і дабівацца ахоўнай зоны**

старонкі 2-3

Фота Настассі УТКІНАЙ.



**Маладзечанец, затрыманы ў Мінску, расказаў, як прайшоў Цэнтральнае РУУС, Акрэсціна і Жодзіна**

старонка 8


ISSN 1991–7155

9 771991 715006 20043


Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт **rh.by**

# У Ручыцы рухнула капліца 18

Фота Настассі УТКІНАЙ.

Капліца сёння.

ВІЛЕЙКА

**Пра гэта 18 кастрычніка нам паведамілі сябры Вілейскай суполкі таварыства аховы помнікаў імя Аляксея Лужынскага.**

### Віляйчанка: Пасля таго, што здарылася з капліцай, не знаходжу сабе месца

– Капліца ў вёсцы Ручыца, помнік 18 стагоддзя, рухнула літаральна на днях. Знаёмы перадаў мне фотаздымкі. Крыўдна, што на працягу года неабыякавыя вілейчукі і работнікі Вілейскага краязнаўчага музея вялі перапіску з Міністэрствам культуры, Вілейскім райвыканкамам, звярталіся, каб захаваць гэты помнік, зрабіць каля яго ахоўную зону, але нічога не атрымалася, – дзеліцца старшыня Вілейскай суполкі таварыства аховы помнікаў імя Аляксея Лужынскага **Дзяніс Канецкі**.

Некалькі год таму сябры суполкі зрабілі драўляны каркас, каб крыху захаваць капліцу ад атмасферных ападкаў.

– У верасні мінулага года, убачыўшы, у якім стане капліца, мы пачалі пісаць у Вілейскі райвыканкам, у Міністэрства культуры, вельмі дапамагалі ў гэтым супрацоўнікі Вілейскага краязнаўчага музея. Пасля таго, што здарылася з капліцай, не знаходжу сабе месца. Заўтра ж буду пісаць у Міністэрства культуры, каб знайшлі вінаватых і пакаралі іх за нядбайнасць, – кажа віляйчанка **Вераніка Гіль**, якая на працягу апошняга года разам з аднадумцамі імкнулася прыцягнуць увагу да захавання помніка.

### Міністэрства культуры ў 2019 годзе: За захаванне каштоўнасці адказвае ўласнік

У лістападзе 2019 года Вераніка Гіль атрымала адказ на свой запыт адносна капліцы з Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

У ім паведамлялася, што аб'ект унесены ў спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей. На яго распаўсюджваюцца патрабаванні кодэкса Рэспублікі Беларусь аб культуры. Згодна з кодэксам, абавязак па захаванні гісторыка-культурнай каштоўнасці ўскладзены на ўласніка. Па інфармацыі Вілейскага райвыканкама, уласнікам помніка з'яўляецца Нарачанскі сельвыканкам. 23 красавіка 2018 года сельвыканкам падпісаў ахоўнае абавязацельства.

Згодна з артыкулам 41 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні Рэспублікі Беларусь» і артыкулам 14 кодэкса Беларусі аб культуры, паўнамоцтвы па правядзенні мерапрыемстваў і кантролі за аховай помніка ляжаць на мясцовых выканаўчых і распарадчых органах.

### Вілейскі райвыканкам у 2019 годзе: Аб'ект не знаходзіцца ў крытычным стане

У адказе Вілейскага райвыканкама ад 2 снежня 2019 года паведамляецца, што капліцы ў 2017 годзе нададзены статус гісторыка-куль-

# стагоддзя

турнай каштоўнасці. У 2016 годзе – гісторыка-культурнай каштоўнасці, якая мае значэнне для асобнага рэгіёна Беларусі.

Далей у адказе паведамляецца: «На момант уключэння ў дзяржаўны спіс гісторыка-культурнай каштоўнасці аб'ект не з'яўляўся цэласным, а быў уключаны як рэшткі былой сядзібы Агінскіх «Ганута»: вадаём, рэшткі дзвюх капліц і царква, другая палова 18 стагоддзя.

На дадзены момант аб'ект мае двух уласнікаў. Царква з'яўляецца прыходам храма Прачыстай Прасвятой Багародзіцы ў вёсцы Ручыца Вілейскага раёна Маладзечанскай епархіі Беларускай Праваслаўнай Царквы, настаяцелем з'яўляецца протаіерэй **Фёдар Алегавіч Кукс**, з якім заключанае ахоўнае абавязацельства, галоўнай мэтай якога з'яўляецца захаванне гісторыка-культурнай каштоўнасці.

Нарачанскі сельскі выканаўчы камітэт Вілейскага раёна Мінскай вобласці ў асобе старшыні **Абрамчык Алены Мікалаеўны** з'яўляецца другім уласнікам, з якім заключанае ахоўнае абавязацельства на другую частку аб'екта – вадаём, рэшткі дзвюх капліц».

Выканкам паведамляў, што на снежань 2019 года капліца не знаходзіцца ў крытычным стане. Адзначалася, што Нарачанскім сельскім выканаўчым камітэтам штогод праводзяцца мерапрыемствы па захаванні рэштак дзвюх капліц у тым стане, у якім яны захаваліся да нашых дзён. Тэрыторыя некалькі разоў на год абкошваецца, прыбіраецца бур'ян. У 2018 годзе для захавання капліц з прыцягненнем сродкаў раённага суботніка былі ўзведзеныя ахоўныя пабудовы, якія спрыяюць мінімізацыі ўздзеяння неспрыяльных умоў надвор'я з мэтай захавання капліц для іх наступнай рэстаўрацыі або кансервацыі. Падобныя збудаванні існавалі і раней. Каля капліц устаноўленыя ахоўныя знакі і інфармацыйны стэнд.

«Правядзенне рамонтна-рэстаўрацыйных работ на аб'екце гісторыка-культурнай каштоўнасці – рэшткі былой сядзібы Агінскіх «Ганута» – у цяперашні час, на жаль, не ўяўляецца магчымым. У той жа час пытанне можа быць вырашана пры наяўнасці бюджэтнага фінансавання ў наступныя гады».

### Што будуць рабіць з капліцай цяпер

19 кастрычніка мы звязаліся з Вілейскім райвыканкамам з просьбай пракаментаваць сітуацыю.

– Цяпер з Нарачанскім сельвыканкам вырашаем, што рабіць, шукаем грошы.

> **Трэба ўмацаваць дах, каб не зваліліся астатнія слупы капліцы. Пасля будзем дабівацца, каб зрабіць ахоўную зону, бо без гэтага немагчымыя праектныя работы.**

Апошні ліст пра тое, каб зрабіць ля капліцы ахоўную зону, райвыканкам накіроўваў у адпаведную інстанцыю прыкладна месяц таму. Мы лічым, што не ўсё яшчэ страчана, – расказаў карэспандэнту начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі **Сяргей Паўлоўскі.**

Па словах Сяргея Фёдаравіча, выдатна б было знайсці фундатара, які б дапамог у аднаўленні капліцы. Людзі ахвотна ахвяруюць на цэрквы, а вось не капліцу – не.

Хацця ёсць дабрачынны рахунак у Вілейскім краязнаўчым музеі, куды можна ахвяраваць грошы на гэты помнік.

### Гісторык Алег Дзярновіч: Галоўнае, правільна захаваць цэглу

На думку гісторыка кандыдата гістарычных навук **Алега Дзярновіча,** які не першы год працуе ў Крэўскім замку, цяпер вельмі важна правільна захаваць цэглу капліцы.

– Гэтай цэгле не адно стагоддзе. Калі пакінуць яе на месцы, то пасля зімы атрымаецца куча гліны. Цэглу трэба вывезці ў сухое цёплае месца. Для таго, каб адцягнуць вільгаць, можна перасыпаць вапнай.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Так выглядала капліца ў 2014 годзе на фотаздымку вілейскага фатографа Міхася Куляша.

Маёнтак Ганута мае даўнюю і багатую гісторыю. Гэта адзін з самых прыгожых маёнткаў Вілейшчыны, які ўяўляў сабой велічны палац і гаспадарчы двор, што быў пабудаваны ў 1765 годзе вядомым італьянскім архітэктарам у стылі барока з элементамі ракако. У гэты ж час з'явілася і капліца, якая рухнула на днях. Капліца была адным з нешматлікіх найстаражытнейшых помнікаў архітэктуры ў раёне.
Маёнткам валодалі Гальшанскія, Пацы, Агінскія, Валовічы. А будаваў яго дзед вядомага кампазітара і грамадскага дзеяча Тадэвуш Агінскі. Сам кампазітар валодаў Ганутай ад 1817 да 1831 года. У 19 стагоддзі краявіды маёнтка маляваў вядомы тагачасны мастак Напалеон Орда.
Сам маёнтак спалілі падчас Другой сусветнай вайны, у 1943 годзе.

**ЛІЧБА НУМАРА**

**493,4** тысячы

столькі тон бульбы прыбралі на 1 кастрычніка на сельскагаспадарчых прадпрыемствах у Беларусі

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 15.10 | 22.10 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| **Долар ЗША** | 2.5717 | **2.5466** |
| **Еўра** | 3.0185 | **3.0216** |
| **Злоты, 10** | 6.6951 | **6.5748** |
| **Расійскі рубель, 100** | 3.3302 | **3.3052** |
| **Грыўня, 100** | 9.0745 | **9.0089** |
| **Курсы ў «Банку БелВЭБ»** | **14.10** | **21.10** |
| **Еўра** | 2.9800/3.0800 | **2.9800/3.0700** |
| **Долар ЗША** | 2.5400/2.6200 | **2.5200/2.5900** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | **14.10** | **21.10** |
| | Цана, руб. | |
| **Кілбаса «Мядовая», 1 кг** | 20,85 | **20,85** |
| **Кураня-бройлер, 1 кг** | 3,50 | **3,50** |
| **Сасіскі, 1 кг** | 7,60 | **7,60** |
| **Свініна (выразка), 1 кг** | 9,50 | **9,50** |
| **Карп жывы, 1 кг** | 4,70 | **4,70** |
| **Мінтай свежамар., 1 кг** | 4,90 | **4,90** |
| **Селядзец, 1 кг** | 5,80 | **5,80** |
| **Скумбрыя х/в, 1 кг** | 17,00 | **17,00** |
| **Грэчка, 0,8 кг** | 2,15 | **2,15** |
| **Рыс, 0,8 кг** | 2,35 | **2,35** |
| **Алей, 1 л** | 3,50 | **3,50** |
| **Кава «Nescafe», 100 г** | 4,80 | **4,80** |
| **Маянэз, 400 г** | 2,60 | **2,60** |
| **Соус «Мінскі», 0,5 л** | 1,80 | **1,80** |
| **Шпроты, бляшанка, 160 г** | 1,70 | **1,70** |
| **Яйкі курыныя, 1 дз.** | 1,80 | **1,80** |
| **Агуркі, 1 кг** | 2,00 | **2,00** |
| **Бульба, 1 кг** | 0,90 | **0,90** |
| **Буракі, 1 кг** | 1,00 | **1,00** |
| **Капуста, 1 кг** | 1,00 | **1,00** |
| **Капуста пекінская, 1 кг** | 2,40 | **2,40** |
| **Морква, 1 кг** | 1,00 | **1,00** |
| **Памідоры, 1 кг** | 2,00 | **2,00** |
| **Перац, 1 кг** | 3,00 | **3,00** |
| **Цыбуля рэпчатая, 1 кг** | 1,00 | **1,00** |
| **Часнок, 1 кг** | 5,90 | **5,90** |
| **Апельсіны, 1 кг** | 3,80 | **3,80** |
| **Бананы, 1 кг** | 3,20 | **3,20** |
| **Вінаград, 1 кг** | 3,70 | **3,70** |
| **Грушы, 1 кг** | 2,90 | **2,90** |
| **Дыня, 1 кг** | 2,00 | **2,00** |
| **Кавун, 1 кг** | 1,00 | **1,00** |
| **Ківі, 1 кг** | 6,50 | **6,50** |
| **Лімон, 1 кг** | 4,10 | **4,10** |
| **Мандарыны, 1 кг** | 5,50 | **5,50** |
| **Нектарыны, 1 кг** | 3,50 | **3,50** |
| **Персікі, 1 кг** | 3,80 | **3,80** |
| **Хурма, 1 кг** | 3,70 | **3,70** |
| **Яблыкі, 1 кг** | 2,80 | **2,15** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако, 1,5 л** | 1,60 | **1,60** |
| **Масла, 1 кг** | 17,00 | **17,00** |
| **Сала, 1 кг** | 13,00 | **13,00** |
| **Сыр, 1 кг** | 14,00 | **14,00** |
| **Тварог, 1 кг** | 8,00 | **8,00** |
| **Яйкі, 1 дзясятак** | 3,20 | **3,20** |

## У Мацькаўцах затрымалі бяспраўніка

**ВІЛЕЙКА**

15 кастрычніка раніцай у Мацькаўцах дзяржаўтаінспектар спыніў аўтамабіль, які рухаўся па тэрыторыі мясцовага сельгаспрадпрыемства «Новая Вілія».

Калі работнік ДАІ праверыў дакументы, аказалася, што фігурант не мае пасведчання кіроўцы. Яшчэ раней ён быў пазбаўлены правоў за кіраванне ў нецвярозым стане. На правы так і не здаў. За рулём работнікам ДАІ трапіўся ўжо другі раз за гэты год, паведамляюць у РАУС Вілейкі.

Аўтамабіль накіравалі на штрафстаянку. Мужчыну пагражае штраф або адміністрацыйны арышт.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Мужчын затрымалі, калі тыя злілі на продаж салярку з трактароў

**АСТРАВЕЦ СМАРГОНЬ**

У Астравецкім раёне на месцы злачынства затрымалі чатырох мужчын, якія злілі з трактароў дызпаліва. Пра гэта паведамілі ў аддзяленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Гродзенскага аблвыканкама.

Мужчыны, жыхары Астравецкага і Смаргонскага раёнаў, бліжэй да вечара прыехалі ў адзін з кар'ераў. Там з двух трактароў яны злілі каля 450 літраў дызпаліва.

– Да вызначанага часу туды на мікрааўтобусе прыехаў пакупнік. Паліва, разлітае ў пластыкавыя каністры, перагрузілі ў транспартны сродак, – распавялі ў міліцыі.

Здзелку сарвалі аператыўнікі па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі Астравецкага райаддзела міліцыі. Цяпер па артыкуле «Прысваенне альбо растрата» пачалі крымінальную справу.

**Паводле БелТА.**

## За смяротнае ДТЗ у Крывічах асудзілі кіроўцу

**МЯДЗЕЛ**

16 кастрычніка суд Мядзельскага раёна разгледзеў крымінальную справу па абвінавачанні Х. у злачынстве, прадугледжаным часткай 4 артыкула 317 КК.

Абвінавачаны Х., знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення, кіруючы аўтамабілем «Опель-Астра», выехаў на паласу сустрэчнага руху, не знізіў хуткасць і не спыніўся. Паблізу дома №27 па вуліцы 17 Верасня ў Крывічах наехаў на раварыстку С., у выніку чаго апошняя атрымала цяжкія цялесныя пашкоджанні і загінула на месцы.

Х. прызналі вінаватым у парушэнні правілаў дарожнага руху асобай, якая кіравала транспартным сродкам у стане алкагольнага ап'янення, якое пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека. На падставе часткі 4 артыкула 317 КК яму прызначылі пакаранне ў выглядзе чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі ў папраўчай калоніі ва ўмовах агульнага рэжыму з пазбаўленнем права займацца дзейнасцю, звязанай з кіраваннем транспартнымі сродкамі на пяць гадоў.

Таксама фігурант будзе прымусова лячыцца ад алкагалізму.

Прысуд у законную сілу не ўступіў і можа быць абскарджаны і апратэставаны ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.

**Паводле сайта Генеральнай пракуратуры.**

## Знайшлі снарад часоў Другой сусветнай

**ВІЛЕЙКА**

На Вілейшчыне жыхар сталіцы знайшоў снарад часоў Другой сусветнай вайны, расказаў карэспандэнту намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Мікалай Мягкоў**.

16 кастрычніка каля дзевяці вечара ў Вілейскі РАУС звярнуўся мужчына, які паведаміў, што каля аўтобуснага прыпынку ў вёсцы Беражок знайшоў снарад. На месца выбылі сапёры.

Супрацоўнікі вайсковай часці 5448 устанавілі, што знойдзены боеприпас – артылерыйскі снарад з выбухоўнікам часоў Другой сусветнай. 17 кастрычніка каля пяці вечара снарад знішчылі на полі каля вёскі Казлы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Заброддзі гарэў пяцікватэрны жылы дом

**ВІЛЕЙКА**

Пра гэта паведамілі ў сектары ўзаемадзеяння з грамадскасцю цэнтра бяспекі жыццядзейнасці і ўзаемадзеяння з грамадскасцю Мінскага абласнога ўпраўлення МНС.

16 кастрычніка пра пажар выратавальнікам каля пяці вечара паведаміў відавочца. Калі спецыялісты прыбылі на месца, аднапавярховы пяцікватэрны дом гарэў адкрытым полымем. На час пажару людзей у доме не было.

Агонь знішчыў маёмасць у кватэрах, перакрыцці, дах на ўсім будынку, закурыў сцены. Прычыну пажару высвятляюць, пацярпелых няма. Дом належаў УП «Мінгаз».

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Нож, якім бацька раніў дачку.

# У Чысці п'яны бацька ўдарыў нажом дарослую дачку

## Жанчына адмовілася з ім выпіць

**МАЛАДЗЕЧНА**

**У пасёлку Чысць 32-гадовая жанчына жыве ў кватэры з бацькам. Бацька жыве на пенсію па інваліднасці і выпівае. Каб не піць у адзіноце, прыцягвае і дачку. А калі тая адмаўляецца, паміж роднымі разгараецца канфлікт.**

Нядаўнім вечарам жанчына ўжываць спіртное не жадала і прылегла адпачыць. Неўзабаве яна прачнулася ад грукату ў пакоі і гучных крыкаў – бацька пагражаў кагосьці забіць.

Амаль адразу ж яна адчула моцны ўдар у ніз жывата. Расплюшчыўшы вочы, жанчына ўбачыла бацьку, які стаяў над ёй з кухонным нажом у руках.

Спрабуючы ўцячы і замкнуцца ў ваннай, яна ледзь не атрымала яшчэ некалькі ўдараў – бацька, будучы п'яным, бег за сваёй ахвярай, размахваючы нажом.

Жанчына звярнулася ў бальніцу, з месца здарэння брыгада «хуткай» даставіла яе ў рэанімацыю.

Участковы інспектар устанавіў, што гэта не першы выпадак, калі п'яны бацька біў дачку. Пару месяцаў таму ўжо быў падобны канфлікт.

Тады мужчына схапіў кухонны нож, што ляжаў на стале, прыставіў яго да грудзей дачкі і пагражаў забіць. Жанчына аказала супраціў, але бацька падчас сутычкі парэзаў ёй шыю.

Дачка схавалася ў склепе. Тут ёй часам даводзілася начаваць, калі дома бушаваў нецвярозы бацька.

У выніку ў дачыненні да мужчыны распачалі шэраг крымінальных спраў па фактах катавання, наўмыснага прычынення лёгкага цяласнага пашкоджання, пагроз забойствам і прычынення цяжкіх цялесных пашкоджанняў.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## На чыгуначных пуцях засеў аўтамабіль

**МАЛАДЗЕЧНА ВІЛЕЙКА**

Пра ДТЗ, якое адбылося 17 кастрычніка каля чатырох гадзін раніцы, карэспандэнту расказаў намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Мікалай Мягкоў**.

– Невядомы патэлефанаваў у міліцыю і паведаміў, што на чыгуначных пуцях паміж Куранцом і Багданавым засеў легкавік. – Міліцыянеры выехалі на месца і сапраўды ўбачылі машыну на чыгунцы. На месцы даведаліся, што за рулём быў жыхар Маладзечна. Ён ехаў да маці, у вёску Язні. Пад'язджаючы да пераезда, мужчына не справіўся з кіраваннем на закругленні дарогі і паехаў па прамой. Аўтамабіль падкінула на чыгуначным насыпе і ён засеў на пуцях, – расказаў Мікалай Мікалаевіч.

Аказалася, кіроўца быў за рулём нецвярозы і не меў правоў кіравання. Яму пагражае штраф.

Магчыма, фігурант мусіць выплаціць і за шкоду чыгунцы, бо з-за ДТЗ амаль на гадзіну затрымалі грузавы цягнік.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Пашкодзілі тры магілы на вясковых могілках

**СМАРГОНЬ**

14 кастрычніка ў Смаргонскі РАУС паступіла паведамленне ад жыхара вёскі Гаўцi Каранёўскага сельсавета. Паведамлялі, што на мясцовых могілках невядомы пашкодзіў тры магілы. Вандал разбіў дэкаратыўную керамічную плітку, агароджу, а таксама керамічную вазу.

Прыехаўшы на месца, міліцыянеры пачалі абыходзіць вёску, каб устанавіць магчымых сведак таго, што адбылося. Відавочцаў злачынства не было, але праваахоўнікам удалося звузіць часавы перыяд, у які здарылася злачынства. Мясцовая жыхарка распавяла, што наведвала магілкі 12 кастрычніка каля 12:00 і ў гэты час усе магілы былі цэлыя.

Затым адзін са сведкаў сказаў, што бачыў паблізу могілак невядомага маладога чалавека і падрабязна апісаў яго. Інфармацыю перадалі мясцоваму ўчастковаму інспектару міліцыі. Па прыкметах падыходзіў жыхар Кушлянаў. Гэта быў хлопец 16 гадоў з непагашаным судзімасцю за крадзеж. Таксама ён неаднаразова прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці.

У час размовы хлопец прызнаўся, што ўвечары 13 кастрычніка ён выйшаў з цягніка ў стане алкагольнага ап'янення. Трэба было ісці міма могілак, і ён вырашыў пашкодзіць магілы.

Следчым камітэтам яго дзеянні кваліфікаваны па часці 1 артыкула 347 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь – «Здзек з трупа або магілы». Санкцыі артыкула прадугледжваюць да трох гадоў пазбаўлення волі.

**Паводле УУС Гродна.**

## Гарэў дом з двума пажарнымі апавяшчальнікамі

**МАЛАДЗЕЧНА**

Пажар здарыўся днём 16 кастрычніка ў вёсцы Вытрапаўшчына.

У МНС звярнулася жанчына, калі пачула пах дыму. Пажар пачаўся ў цагляным доме, у той частцы, дзе жыве 59-гадовы беспрацоўны мужчына.

У дома двое ўласнікаў. Там былі два пажарныя апавяшчальнікі. Але яны не спрацавалі, таму што не працавалі элементы сілкавання.

З-за пажару пашкоджаныя пасцельныя прыналежнасці, стол, закураныя сцены і маёмасць. Прычыну пажару высвятляюць.

**Аддзел інфармацыі.**

# Студэнта-вілейчука, удзельніка пратэстаў, адлічылі з пятага курса БНТУ

**Сёння віляйчук Арцемій Супрановіч жыве і працуе ва Украіне. А яшчэ нядаўна вучыўся на архітэктара на пятым курсе БНТУ. Афіцыйная прычына адлічэння – за сістэматычнае паўторнае парушэнне вучэбнай дысцыпліны і невыкананне абавязкаў.**

ВІЛЕЙКА

Пра свае перакананні і пра тое, як пачаўся для яго верасень-2020, Арцём расказаў карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты».

Хлопец нарадзіўся і вырас у Вілейцы.

– Для мяне Вілейка – гэта шчырыя, адкрытыя людзі, падтрымка і ўзаемадапамога. Як і большасць вучняў гімназіі «Логас», я хацеў паступіць у прэстыжную сталічную ВНУ. Ад дзясятага класа сумленна і мэтанакіравана рыхтаваўся да ўступных экзаменаў. У выніку паспяхова паступіў у БНТУ на архітэктара, – пачынае Арцём.

Па яго словах, вучыцца было нескладана. Часам мусіў паднапружыцца, але асаблівых цяжкасцей не было. Вучоба задавальняла студэнта, але хацелася чагосьці большага, інавацыйнага.

Да лета гэтага года Арцём зусім не цікавіўся палітыкай. Цікавасць прыйшла ў ліпені. Зарэгістраваўся назіральнікам на выбарах на двух участках Вілейшчыны, пабачыў парушэнні. І ўжо не змог заставацца ў баку ад палітыкі.

– Сітуацыяй у краіне заклапочаны цяпер кожны з маіх былых аднагрупнікаў, – кажа Арцём. – Ад верасня ў БНТУ мы пачалі ладзіць акцыі пратэсту. Яны праходзілі мірна ў дружалюбнай абстаноўцы. Студэнты выступалі за канструктыўны дыялог з адміністрацыяй і рэктарам універсітэта для вырашэння тых пытанняў, якія нас цікавілі. Але ў адміністрацыі была іншая думка наконт дыялогу. Пачалі запалохваць, пагражаць сваім жа студэнтам. Асабіста мной пачалі цікавіцца ад пачатку гэтага навучальнага года. Але я асаблівай увагі не надаваў.

Пра тое, што яго выключылі з пятага курса, Арцём даведаўся ад сяброўкі.

– Афіцыйная прычына – пропускі. Так, я не ідэальны студэнт, часам мог прапусціць пару. Але ў нас ёсць студэнты, якія сесію не здалі і ў сярэдзіне верасня яшчэ на заняткі хадзіць не пачалі, – дзеліцца былы студэнт.

Па словах хлопца, яго сям'я мае актыўную грамадзянскую пазіцыю, неабыякавая да падзей у краіне, падтрымлівае яго. Адлічэнне родныя ўспрынялі спакойна, з разуменнем.

Ва Украіне Арцём працуе, таксама займаецца грамадскай дзейнасцю ў галіне незалежных прафсаюзаў. За падзеямі ў Беларусі сочыць і па інтэрнэту, і па ўкраінскім тэлебачанні. Па яго назіраннях, там тэлебачанне аб'ектыўна паказвае сітуацыю ў Беларусі.

– Як і ўсе беларусы, я вельмі хачу вярнуцца дамоў. А пакуль назіраю за сваімі землякамі – віляйчанамі – і радуюся, што яны такія актыўныя.

**Аксана ЯРАШОНАК.**


Фота са старонкі Арцёма ў Фэйсбуку.

Арцём Супрановіч.

# Вучні прыбралі берагі ракі і рассартавалі смецце

ВІЛЕЙКА

**Наша школа ўдзельнічае ў розных праектах. Адзін з іх – педагагічны праект «Развіццё экалагічнай кампетэнтнасці навучэнцаў на аснове стратэгіі ўстойлівага развіцця»**

Падчас працы над праектам вучні неаднаразова ўдзельнічалі ў розных экалагічных конкурсах і акцыях – «Чысты лес», «Дзень Зямлі», «Дрэва замест букета», «Здаём макулатуру – захоўваем дрэва».

Побач з нашай вёскай працякае рака Ілія. Адным з упадабаных месцаў для адпачывальнікаў з'яўляюцца берагі ракі каля бальніцы. Тут часта можна сустрэць аднавяскоўцаў або навучэнцаў мясцовага каледжа. З часам самае людное месца стала адначасова і адным з самых забруджаных.

**Ля ракі сабралася шмат шклянога і пластыкавага посуду, упаковак ад чыпсаў, сокаў, сурвэткі і рэшткі іншых рэчаў і прадуктаў.**

Мы вырашылі не толькі пачысціць берагі ад смецця, але і прааналізаваць яго склад, колькасць і прыналежнасць да адпаведнага тыпу – правесці смеццевы аўдыт.

На маю прапанову адгукнуліся сямікласнікі, якія ў школе адказваюць за паасобны збор смецця. 15 кастрычніка выйшлі на акцыю «Чыстая рака». Якраз надвор'е нам спрыяла. Узяўшы неабходныя рэквізіты, вучні з класным кіраўніком **Аксанай Аляксееўнай Шушкевіч** пайшлі да ракі.

На здзіўленне, на гэты раз смецця аказалася няшмат. Хлопчыкі і дзяўчынкі разбегліся па беразе, збіраючы яго. Адны падбіралі пластыкавыя бутэлькі, другія шкляныя, трэція – рэшткі ад цыгарэт, чацвёртыя – упакоўкі харчовых прадуктаў, вільготныя сурвэткі, ахоўныя маскі, металічны посуд ад энергетыка. Сабраўшы ўсё, мы падлічылі колькасць рэчаў, уважлівы і запоўнілі форму аўдыту.

З усяго сабранага толькі пластыкавыя і шкляныя бутэлькі годныя для перапрацоўкі.

**Іх мы прынеслі да спецыяльных кантэйнераў, астатняе пайшло ў кантэйнер для агульнага смецця.**

Хочацца, каб рэкі і азёры нашай радзімы былі прыгожымі і чыстымі.

**Зоя КІПЕЛЬ, настаўнік хіміі Ільянскай сярэдняй школы імя А.А.Грымаця. Фота забяспечанае аўтарам.**


Ваня Вярбіцкі праводзіць аўдыт смецця.

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

Рэгіянальная газета. Rh.by

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

• Зімовая гума на жалезных дысках б/у, 4 шт. R-16 205155. Нядорага. Т. (8-029) 9529981.

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Аўто ў любым стане. Можна аварыйнае. Т. (8-033) 6612163.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры г. Смаргонь. Т. (8-044) 7626113.

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

### КУПЛЮ

• Гараж у ГК-1 г. Маладзечна. Т. (8-033) 6035716.*

### ЗДАМ

• Кватэру ў Маладзечне. Т. (8-029) 2103019.

### НАЙМУ

• 2-х, 3-х, 4-пакаёвую кватэру ў Вілейцы або дом з выгодамі на доўгі тэрмін, дорага. Т. (+375-44) 5132783.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Музыка, відэаздымка, фотаздымка, тамада. Т. (8-029) 8578378.*



### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Анор С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 3603663, (8-029) 8331245.*

• Бурэнне свідравін (скважын). Калонкі. Помпы. Падвод вады да дома. Наяўны/безнаяўны разлік. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. А1 (8-029) 1287878, МТС (8-029) 7860317.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8029) 3395974.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

• **СПІЛОЎВАННЕ ДРЭЎ. АБРЭЗКА. ДРАБНЕННЕ ГАЛІНАК І ПНЁЎ**. ІП Таўгень. Е.П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830. Вайбер.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Узворванне, культывацыя прысядзібных участкаў. ІП Каркоцкі С.В. УНП 692246779 Т. (8-029) 7682028.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркіна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Музінструмент**

• Гітара. Т. (8-029) 5019550.*

• Піяніна. Нядорага. Т. (8-029) 6086204.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Бараны і авечкі жывой вагой, 5 рублёў за 1 кг. Віталій. Т. (8-029) 6769359.*

• Карова, 7 год. Т. (8-029) 7518549, (8-0176) 504159.*

• Карова высокаўдойная, 10 гадоў. Т. (8-029) 7510424, (8-01771) 78961.

• Козы зааненская, 2 шт., высокаўдойныя, цана дамоўная, дапамагу з дастаўкай. Вёска Ілья, Вілейскі р-н. Т. (8-033) 6934239 (МТС), (8-029) 9980002 (А1).*

• Парасяты дамашнія. Дапамагу з дастаўкай. Т. (8-029) 8753916.*

• Распродаж парасят кармалаў ад 40 рублёў. Т. (8-044) 5321975, (8-029) 7621019.*

• Свінні белыя і в'етнамскія на мяса. Парасяты в'етнамскія. Т. (8-025) 7894666.*

**Іншае**

• Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Сена ў цюках. Дастаўка. Т. (8-025) 7894666.*

## ПРАЦА

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Нясправўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.

• Папугая карэла. (8-029)5019550.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Фотаапараты «Зеніт» і розныя аб'екты. Т. (8-029) 2988005.*

### ІНШАЕ

• Адукацыйны цэнтр «Волшебное прикосновение» запрашае на вучэбныя курсы па напрамках: масажыст, бравіст, майстар па дэпіляцыі, касметык, майстар пазногцевага сэрвісу. ІП Бухнов А.Г. УНП 391435137 Т. (8-029) 7178246, (8-025) 5480842.*

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т (8-044) 7516244 Вэлком.

• Вадзіцель-экспедытар, міжнароднік. Т. (8-044) 4564380.*

# Маладзечанскія музыканты далі канцэрт у Вілейцы

**17 кастрычніка ў Вілейцы зладзілі канцэрт, на якім выступілі Ігар Палынскі, лідар гурту Sumarok, і гурт PARTIZANY.**

Паслухаць іх прыйшло каля 50 чалавек.

Гурт PARTIZANY зайграў у паўнавартасным электрычным складзе, а Ігар Палынскі выканаў акустычную праграму.

– Вельмі ўсцешыла, што на імпрэзу прыйшлі не толькі вілейчукі, але прыехалі і слухачы з Маладзечна. Маю спадзеў, што неўзабаве ладзіць канцэрты ў Беларусі стане нашмат прасцей і мы зможам пакатацца па краіне, каб прэзентаваць жывую маладзечанскую музыку і ў іншых рэгіёнах, – сказаў пасля выступу Ігар Палынскі карэспандэнту «РГ».

**– Было прыемна выступіць перад старымі і новымі сябрамі. Дзякуй усім, хто быў з намі, – так пракаментаваў канцэрт Андрэй Кажан, вакаліст гурта PARTIZANY.**

Падчас канцэрта музыканты расказалі, што працуюць над запісам супольнай песні, якая з'явіцца неўзабаве.

**Аляксей КАСТОЎСКІ.**

Фота Настассі УТКІНАЙ.

Гурт PARTIZANY.

# Дайджэст: Прызначылі новых рэктараў, асудзілі журналістаў

## Што адбылося ў Беларусі за мінулы тыдзень

### У трох ВНУ краіны – новыя рэктары

На нарадзе 9 кастрычніка **Аляксандр Лукашэнка** выказаў незадаволенасць працай некаторых кіраўнікоў ВНУ. У выніку 20 кастрычніка ён прызначыў трох новых рэктараў. Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт узначаліла дэкан факультэта нямецкай мовы **Наталля Лапцева**. Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтва – былы першы намеснік міністра культуры **Наталля Карчэўская**. Рэктарам Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта сталі былы прарэктар па вучэбнай працы БНТУ **Аляксандр Бахановіч**.

### Журналістам, якія працавалі на акцыях, далі па два тыдні арышту

Журналістку «Анлайнера» **Дар'ю Спевак**, фатографа Tut.by і БелаПАН **Вадзіма Заміроўскага** і аператара Tut.by і БелаПАН **Усевалада Зарубіна** затрымалі ў суботу, 17 кастрычніка, падчас маршу студэнтаў на вуліцы Казлова. Дзве ночы журналісты правялі на Акрэсціна. 19 кастрычніка адбыўся суд. Журналісты атрымалі па два тыдні арышту. **Арцём Маёраў**, супрацоўнік выдання «Беларусь і рынак», быў затрыманы ў нядзелю. Ён таксама атрымаў 15 сутак арышту. Брэсцкія калегі, **Максім Хлябец** і **Раман Чмель**, на 21 кастрычніка яшчэ чакалі суда.

### МУС: ад верасня ў Польшчу з'ехалі 10 тысяч беларусаў, ва Украіну – 3 тысячы

Пра гэта расказаў начальнік дэпартамента па грамадзянстве і міграцыі МУС **Аляксей Бягун**. Паводле яго слоў, ва Украіну з верасня з'ехала каля трох тысяч чалавек, а на тэрыторыю Польшчы – каля дзесяці тысяч. У Латвію і Літву, па словах Бегуна, – не больш за 500 чалавек.

Таксама Бягун адзначыў, што «пэўныя асобы выкарысталі гэты ўнутрыпалітычны крызіс для таго, каб звярнуцца з хадайніцтвам аб наданні статусу бежанца, і вельмі часта ствaралі так званую інфармацыйную карцінку, каб пацвердзіць, што з'яўляюцца ахвярамі за свае палітычныя погляды на тэрыторыі Беларусі».

### Мінздароўя зацвердзіла новыя рэкамендацыі па COVID-19

Міністэрства аховы здароўя зацвердзіла метадычныя рэкамендацыі па прафілактыцы каронавіруснай інфекцыі. Яны прызначаныя для работнікаў і наведнікаў камерцыйных і некамерцыйных арганізацый, прадпрыемстваў, устаноў, а таксама індывідуальных прадпрымальнікаў. Гэтыя правілы накіраваныя на зніжэнне рызыкі распаўсюджання інфекцыі і захаванне здароўя ва ўмовах пандэміі COVID-19.

Падкрэсліваецца, што рэкамендацыі не датычацца ўстаноў адукацыі, аховы здароўя, сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, турмаў і ўстаноў Міністэрства абароны.

Рэкамендуецца перавесці максімальна магчымую колькасць работнікаў на дыстанцыйную работу. Пажадана абмяжоўваць любыя масавыя мерапрыемствы з удзелам больш як пяці чалавек, рэкамендуецца абмяжоўваць камандзіроўкі і рабочыя паездкі.

Мэтазгодна выкарыстоўваць бескантактавыя ўстройствы для адкрыцця дзвярэй, выключальнікаў святла, работы сантэхнічнага абсталявання. Таксама варта забяспечыць бяспечны пітны рэжым супрацоўнікаў і незніжальны месячны запас сродкаў дэзынфекцыі.

Штодзённа перад пачаткам працоўнай змены супрацоўнікі мусяць мераць тэмпературу. На рабочых месцах работнікі павінны быць забяспечаны запасам масак, пальчаткамі, пры неабходнасці – сродкамі дэзынфекцыі для апрацоўкі рук.

Акрамя таго, павінна выконвацца рэгулярная вільготная ўборка памяшканняў з выкарыстаннем мыйных сродкаў і сродкаў дэзынфекцыі.

**Паводле Нашай Нівы, tut.by, DW, zviazda.by.**

# Дзецям сказалі, што тата 15 сутак быў на працы

## Маладзечанец – пра тое, як прайшоў Цэнтральнае РУУС, Акрэсціна і Жодзіна

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанец Віталь Алейнік працуе ў Мінску. 23 верасня, увечары, ён быў у цэнтры сталіцы. Ішоў па вуліцы Леніна да станцыі метро «Кастрычніцкая». Аднак не дайшоў да яе.**

### Затрыманне: Невядомыя людзі не прадстаўляліся, не тлумачылі прычын

– Цэнтр сталіцы – месца, дзе мае права знаходзіцца кожны чалавек. Я часта там бываю, бо працую ў фінансавай галіне і сустракаюся з партнёрамі. 23 верасня ўвечары на вуліцы Леніна да мяне падбегла група агрэсіўных людзей у аліўкавай форме, некаторыя – з дубінкамі. Я разумеў, якія наступствы бываюць пасля такіх нападаў. Мая сям'я ўжо пацярпела ад гэтых падзей. Таму я паказаў, што ў мяне нічога няма ў руках, што іду мірна, – прыгадвае Віталь.

Не прадстаўляючыся, не называючы прычын, Віталю загадалі садзіцца на зямлю. Адзін з людзей заламаў яму рукі за спіну і сцягнуў будаўнічай сцяжкай.

Віталя зацягнулі, як ён пасля зразумеў, у будынак Галоўнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй. Тварам да сцяны пасадзілі ў калідоры ля КПП. Побач ужо былі людзі, некаторыя з іх – скрываўленыя.

– Калі невядомыя супрацоўнікі выйшлі, у мяне атрымалася дамовіцца на КПП, каб мне разрэзалі сцяжку. Я папрасіў напаіць людзей вадой, што была з сабой. Мне дазволілі, – дзеліцца Віталь.

Потым ва ўсіх пачалі пытацца пра дакументы. Віталь паказаў. А калі прагучала патрабаванне паказаць мабільнікі, мужчына вырашыў – гэтага не зробіць:

– У мяне ў тэлефоне толькі фотаздымкі сям'і, дзяцей. Але я пачуў, як абразліва людзі ў аліўкавым абмяркоўваюць фотаздымкі жонак затрыманых, як чытаюць сямейную перапіску. Мне не хацелася, каб гэта рабілі ў адносінах да маёй сям'і. У выніку, некалькі разоў груба запатрабаваўшы мой мабільнік, у мітусні пра яго забыліся.

### У Цэнтральным РУУС: Пытаўся, чаму затрымалі. У адказ – мацюкі

Праз пэўны час затрыманаму сказалі, што яго хутка адпусцяць. Але замест гэтага павялі на вуліцу і пасадзілі ў службовы аўтамабіль, у камеру. Адразу ж укінулі іншага чалавека, пазней – яшчэ аднаго, з разбітай галавой.

– Нас прывезлі ў двор нейкай установы. Тое, што гэта Цэнтральнае РУУС, зразумелі пазней. 10-15 чалавек пастроілі па сцэнцы. Гучалі пагрозы і маты. Я ў стрэсавым стане спытаў, ці не збіраюцца нас забіваць. У адказ завязаўся дыялог. «Мы яшчэ нікога не забівалі», – адказалі мне. Тады я назваў некалькі прозвішчаў загінулых на пратэстах. Мне адказалі, што яны ж самі лезлі на барыкады.

Віталь, які ведае правазнаўства, спрабаваў высветліць, чаму яго затрымалі, у якім ён статусе. А ў адказ атрымліваў мацюкі.

У РУУС маладзечанца закінулі ў залу, дзе сядзелі міліцыянеры. Патрабавалі падпісаць пратакол. Віталь адказаў, што будзе ўсё рабіць толькі з адвакатам. У адказ пачуў: тут кожны міліцыянер юрыст і можа параіць, што рабіць. Урэшце затрыманаму растлумачылі: яго будуць судзіць па адміністрацыйным працэсе.

– Я спытаў: «Са сведкамі ў чорных шапках?» На што мне адказалі: «Міліцыя хвалюецца за сябе і жыццё сямей». Цікава, чаму міліцыя – сілавое ведамства – хвалюецца, а я, звычайны чалавек, не магу хвалявацца за сваю сям'ю. Давайце і мне насунем чорную маску, – дзеліцца Віталь.

У чарговым кабінеце спрабавалі ўзяць адбіткі пальцаў. Але без адваката мужчына не пагадзіўся.

– Перыядычна адбываліся дыялогі з работнікамі РУУС. Я размаўляў тактоўна, ветліва. У адной з размоў пачуў, што каб я служыў у войску, больш разумеў бы сітуацыю. На што адказаў, што вучыўся ў некалькіх універсітэтах і пісаў аспіранцкую працу.

### Акрэсціна: Рукі – на сцэнку, ногі – расставіць

Пасля некалькіх гадзін у бетоннай камеры, затрыманых вывелі на вуліцу, заштурхалі ў аўтазак і прывезлі на Акрэсціна.

– Зноў рукі на сцэнку, ногі расставіць, галаву ўніз. Хто схіляў не так нізка, падляталі і білі. У нашай камеры былі чатыры чалавекі. Адразу не далі пасцель, рэчы першай неабходнасці. Падбадзёрылі з сукамернікамі адзін аднаго. Скруціліся на брудных матрацах і, накрыўшыся курткамі, заснулі, – расказвае сураразмоўца.

На наступны дзень пачыналіся пасяджэнні па скайпе. Па словах Віталя, сістэма не спраўлялася ні з колькасцю судоў, ні наплывам затрыманых. Задзейнічалі другі корпус на Акрэсціне, куды і перавялі маладзечанца.

### Далі пабіты тэлефон і сказалі: вось суд

Суда Віталь дачакаўся 25 верасня:

– Запрасілі на калідор, далі ў руку пабіты тэлефон і сказалі: вось твой суд. Выяву і гук на экране цяжка было разабраць. Я сказаў суддзі, што дрэнна чую і бачу, магу нешта важнае прапусціць. Прозвішча і імя суддзі – **Юлія Густыр** – пачуў з пятага разу. Я шмат хадайнічаў, прасіў правесці нармальнае пасяджэнне. Хадайніцтвы адхілялі. Але дазволілі паразмаўляць з адвакатам. Суддзя выйшла з пакоя. Я гаварыў з адвакатам, але побач стаяў міліцыянер. І гэта парушэнне.

З пратакола Віталь даведаўся, дзе і калі яго затрымалі. Кажа, прагучалі іншае месца і час. Пасля на экране з'явіўся сведка ў чорнай масцы. Ён сцвярджаў, што бачыў Віталя ў калоне. Па словах суразмоўцы, сведка блытаўся. Але суддзя агучыла прысуд – 15 сутак.

– Сумна і смешна адначасова. Суд прызнае змякчальнымі абставінамі наяўнасць у мяне дзяцей, але дае максімальна магчымы тэрмін, – кажа мужчына.

### Жодзіна: Запрашаем у лагер ваеннапалонных

У Акрэсціне Віталь быў трое сутак. Пасля загрузілі ў аўтазак і павезлі ў Жодзіна:

– Ехалі ў аўтазаку і чулі, як сігналяць машыны, што праязджаюць міма. Было так прыемна! Магчыма, кіроўцы так пратэставалі супраць сістэмы, магчыма, падтрымлівалі нас.

Жодзіна пачалося з матаў, абразаў, стуку дубінкамі па сценах, маральнага і фізічнага гвалту:

– Нас пагналі па нейкіх калідорах. Крычалі: бяжыце, прытрымлівайцеся правага боку, апусціце галаву. І цяпер у свядомасці гэтыя словы. У чарговым калідоры сказалі: «Сардэчна запрашаем у лагер для ваеннапалонных». І як усюды: рукі на сцяну, далоні развярнуць, ногі расставіць. Тут у маёй камеры было восем чалавек. Ад халоднай вады пачалася алергія. Не хапала посуду і ежы. Часам прыносілі чатыры кубкі на восем чалавек.

Па словах Віталя, асабліва цяжкімі былі дні ад панядзелка да серады. Бліжэй да ночы прывозілі шмат затрыманых, на калідоры чуліся ўдары, крыкі людзей.

– На той момант асабіста я яшчэ фізічнага гвалту моцна не адчуў. Але маральна было нялёгка. Штодзень мусілі назіраць, як міліцыянеры абыходзіліся з затрыманымі. Чалавека, які значна перасягае яго і па ўзросце, і па адукацыі, міліцыянер абражаў, тыкаў яму.

### Праўду затыкаюць сілай

Пасля сутыкнуўся з фізічным гвалтам і Віталь.

– Неяк вывелі на пераклічку. Спыталі, якія пажаданні. Я адказаў: адпусціць незаконна затрыманых. Спыталі, хто гэта сказаў. Я назваўся. Да мяне падышоў работнік і пачаў біць па нагах дубінкай. Я хацеў паглядзець яму ў вочы, але не атрымалася: ён стаяў ззаду. Пасля гэтага я зразумеў: тут баяцца праўды і ўмеюць затыкаць яе толькі сілай.

14 кастрычніка Віталь схадзіў у адзін з маладзечанскіх медцэнтраў і зафіксаваў пабоі – крывападцёкі на абодвух сцёгнах.

Перад выхадам у турме змяніліся правілы. Калі раней затрыманым дазвалялі ўдзень прысесці на ложак, то цяпер можна было толькі хадзіць па камеры або сядзець на вузкіх лавачках.

### Міліцыянеры губляліся, калі разумелі: затрыманых лічаць героямі

У турме затрыманыя адчулі салідарнасць беларусаў. У дзень перадач пакункі з ежай, неабходнымі рэчамі цяклі ракой.

– Цікава было назіраць за разгубленасцю міліцыянераў у такія дні. Яны думаюць, што вартуюць бандытаў бы правапарушальнікаў. А мяркуючы па колькасці перадач, грамадства нас лічыць, наадварот, героямі.

### Віталь: Не хачу, каб мае дзеці гулялі ў АМАП

Вызвалілі мужчыну 9 кастрычніка ўвечары:

– Зноў загады: рукі – на сцяну, ногі – расставіць, галаву – уніз. Здавалася б, людзі ж адседзелі, стаўцеся да іх нармальна. Але – не. Кагосьці падштурхнуць, на кагосьці – мацюкаюцца. Да апошняга падкрэсліваюць сваю сілу.

Сустракалі Віталя родныя. Кажа, пад турмой была цэлая плынь машын – сябры, валанцёры прыехалі сустракаць вызваленых. У незнаёмых людзей пыталіся, куды падвезці.

...Маленькім дзецям Віталя родныя сказалі, што тата 15 сутак быў на працы:

– Ім пакуль немагчыма ды і не варта тлумачыць, што адбываецца ў краіне. Я хачу, каб мае дзеці гулялі ў свае дзіцячыя гульні, а не ў АМАП.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Віталь Алейнік у рэдакцыі.

Фота Настассі УЛКІНАЙ.

# на Мінск разарвуць мяне»

ў суд. Адказалі, што такога быць не можа, дакументы павінны былі прыйсці. 23 верасня мне тэлефануе тата, просіць сустрэцца. І пры сустрэчы дае пастанову ад судовага выканаўцы, што мне далі дадатковы штраф, бо не аплаціла асноўны, таму прыходзілі апісваць маю маёмасць.

Сустракаюся з судовым выканаўцам, тлумачу, што мне ніякія дакументы не прыйшлі, а яшчэ і дадатковы штраф далі. У судзе пасля даюць пастановы, пытаюся, а чаму мне іх не перадалі. Адказваюць, што я павінна была прыйсці па іх сама, пра гэта казалі на маім судзе. Адказваю, што мне нічога такога не казалі. Кажуць, што такога быць не можа. Я збіралася пастанову абскарджваць, але мне нічога не прыходзіла, і мне яшчэ кажуць, што сама вінавата.

Пачала чытаць пастанову, якую далі ў судзе. Стала і смешна, і сумна, і сорамна.

**Аказалася, што я і п'яная была, хаця дыхала на Галіцкага ў трубачку, якая паказала нуль.**

Мой малады чалавек сказаў, што гэты агляд павінны былі праводзіць у псіханеўралагічным дыспансеры. Калі я дыхнула, паказала па нулях. Пры мне ў рукапісны пратакол упісвалі нулік. Мой малады чалавек сказаў, што да таго нуліка маглі дапісаць любую лічбу, таму што гэта было напісанае ад рукі.

Мяне абвінавачвалі таксама ў супраціўленні пры арышце, і я спыталася, што ж зрабіла такое, што можна назваць супраціўленнем. Мне адказалі – вы былі на мітынгу. Кажу, што праходзіла міма. Мне адказваюць – ну вы ж там знаходзіліся. Прачытала, што я крычала, адмахвалася, упіралася. Мая віна, што не прачытала другі пратакол у міліцыі і падпісала. Напісала заяву на растэрміноўку выплаты штрафаў.

У міліцыі пры складанні пратакола ўказвала адрас прапіскі. Калі судовыя выканаўцы прыехалі да таты, ён сказаў, што яго дачка ўжо дарослая, жыве самастойна, будзе цяпер у свайго маладога чалавека. Запісалі яго адрас, прыязджалі без мяне да яго на вопіс. Гэта не мой дом, і ніякай маёй маёмасці там няма, максімум нешта з адзення. Яны пачалі патрабаваць дакументы на рэчы мамы і бабулі маладога чалавека, каб даказаць, што гэта не маё. На не самую новую тэхніку дакументаў, канешне, не было. Я там не прапісаная, не маю ніякага дачынення да гэтай кватэры, а там збіраюцца забіраць нейкія рэчы.

Майго сябра затрымалі 11 жніўня ў Маладзечне, калі ўбачыла яго фотаздымкі сіняга цела, то мой сіняк на ўсю нагу падаўся зусім не страшным. Расказваў, што яму хацелі зняць штаны і пагражалі дубінкай. Ён з'ехаў з краіны.

Цяпер адзінае, што мяне супакойвае – калі чытаю навіны, бачу вялікую колькасць людзей і відаць, што яны ў бяспецы. Калі пратэстоўцаў шмат, яны мірна стаяць ці ходзяць, мяне гэта супакойвае. Супакойваюць добрыя навіны.

Калі выходжу вечарам курыць на балкон і чую нейкія крыкі, а мой малады чалавек кажа, што там і праўда крычаць, адчуваю палёгку. Але калі ён кажа, што ўсё ціха, становіцца не па сабе. Думаю, што псіхалагічна я спраўлюся сама, але хочацца, каб гэтага жаху стала ў маім жыцці менш.

Спачатку не расказвала пра гэта ўсё бацькам, каб не хваляваць. І калі тата прыехаў пасля сустрэчы з судовымі выканаўцамі, у яго рукі трэсліся, пытаецца, што здарылася. Я расказала, і мне стала лягчэй. Тата абняў, сказаў, што мы з усім справімся, усё будзе добра. Падтрымка блізкіх ратуе.

### Што напісана ў пастанове суда

Паводле пастановы суддзі **Аляксея Іршына**, Крысціна каля 23 гадзін 10 жніўня была каля гімназіі №6 у стане алкагольнага ап'янення, прымала актыўны ўдзел у сумеснай прысутнасці грамадзян у загадзя вызначаны час і месцы, публічна выказвала незадавальненне ўладай і парадкам правядзення выбараў.

А ў 23:05 адмовілася выконваць неаднаразовыя законныя і відавочныя патрабаванні супрацоўніка міліцыі **Аляксея Кафанава** спыніць супрацьпраўныя дзеянні і пакінуць плошчу, крычала і адмахвалася, упіралася рукамі і нагамі, чым здзейсніла непадпарадкаванне законнаму патрабаванню службовай асобы. Якім чынам Крысціна, знаходзячыся каля шостай гімназіі ў паўкіламетры ад Цэнтральнай плошчы, павінна была яе пакінуць, судовая пастанова не тлумачыць.

Паводле пастановы, маладзечанка ў судовым пасяджэнні прызнала віну. Пастанова не абскарджаная і не апратэставаная, уступіла ў законную сілу 22 жніўня.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

# «У аўтазаку мы крычалі і прасіліся ў туалет, на гэта ніяк не рэагавалі»

МАЛАДЗЕЧНА

**Сярод затрыманых 9 жніўня ў Маладзечне быў Дзяніс Краўчонак.**

Ён цяпер жыве ў Мінску, але родны горад – Маладзечна. Тут жывуць яго сястра і брат. Час ад часу мужчына прыязджае сюды на выхадныя. Яго затрымалі прыкладна ў 23:30. Дзяніс падзяліўся сваёй гісторыяй затрымання з чытачамі «РГ»:

– Я ішоў па Вялікім Гасцінцы, быў каля былой крамы «Елгава». Ішоў у бок крамы «Акваділ», там мяне і затрымалі. Хацеў купіць цыгарэты, думаў, раптам працуе гэты магазін.

Бачу, што спыняецца машына і адтуль выходзяць людзі ў чорнай вопратцы. Накіраваўся ў дворык, адчуў, што з імі лепш не сутыкацца. Але каб асэнсаваць усё, было вельмі мала часу.

У дворыку мяне спынілі два ці тры чалавекі. Падышлі, было відаць, што думаюць, ці затрымліваць.

Пасля ўбачылі на маёй руцэ белую стужачку, я зрабіў са шнурка, узялі пад рукі і павялі ў бусік, надзелі наручнікі.

Там ужо было некалькі чалавек, яны былі цесна згрупаваныя адзін да аднаго, хтосьці быў на падлозе. Я на некага крыху заваліўся. У машыне затрыманых было чалавек сем. Пасля заводзілі і іншых, яшчэ чалавек сем-дзевяць. Павезлі ў РАУС.

У бусе быў шафёр і яшчэ некалькі супрацоўнікаў. Мы ўсе былі перапалоханыя, да аднаго чалавека дакрануўся ў знак падтрымкі.

Быў моцны маральны ціск, размаўлялі з намі, як з кімсьці, хто ніжэй за цябе. Размаўлялі груба, гучна, камандамі – «Лежать!», у такім ключы. Завялі дзвюх жанчын, яны пачалі спрачацца, ім адказвалі «Молчать!». Яны таксама адказвалі на павышаных тонах. І было відаць, што тыя амапаўцы самі не ведалі, як да гэтых жанчын ставіцца. Я баяўся, што яны атрымаюць дубінкай.

Адна жанчына асабліва ўзрушалася: «Мне 40 гадоў, ішла па вуліцы, я што, хадзіць па вуліцы не магу?». Амапаўцы груба казалі, каб яна замаўчала, а яна працягвала.

Так даехалі да міліцыі. Я маўчаў, разумеў, што гэта не мае сэнсу, што ў іх загад – маральна ціснуць.

У двары ўсіх расклалі, штурхаючы. У мяне счасаліся локці і калені.

Калі прывезлі нас, у двары ўжо ляжала чалавек 25-30. Усе ляжалі галавой уніз каля сцяны, ляжалі шэрагамі, як даміно. Праляжалі там дзве-тры гадзіны, пакуль не склалі пратакол, пасля нас вярнулі сюды ж. Рукі былі ў наручніках. Некаторыя скардзіліся, што наручнікі вельмі тугія, некаторым іх здымалі. Прывозілі яшчэ затрыманых. Я спрабаваў падлічваць, налічыў чалавек 40-50. Я трохі паварочваў тварам, каб разгледзець людзей, лавілі позіркі, каб адчуць падтрымку з іншымі.



Дзяніс Краўчонак быў затрыманы 9 жніўня ў Маладзечне.

Фота Настассі УЛІНАЙ.

У дворыку бачыў людзей у пагонах. Некаторыя, хто ляжаў побач, называлі па званнях, а я не разбіраўся. Збівалі людзей, якія гаварылі. Дзвюх жанчын прывезлі з намі, колькі яшчэ было жанчын – не памятаю. Калі я ляжаў, быў небяспечны момант, калі мог атрымаць дубінкай. Пачаў спрачацца, пытаўся, за што нас збіваюць – таксама з нецэнзурнай лексікай. Падышоў міліцыянер і сказаў, што там двух іх чалавек пабілі, нешта зламалі ім, здаецца. Думаў, паб'е мяне, але стрымаўся, нічога не сказаў больш. Кажу, што маёй знаёмай рукі зламалі, не адказаў нічога.

Праз гадзіны дзветры дазволілі сесці, і я быў за гэта ўдзячны. Пасля адводзілі складаць пратакол і вярталі назад. Але ўвесь гэты час не дазвалялі схадзіць у прыбіральню.

Гэта для мяне было самае складанае псіхалагічна. Некалькі разоў прасіў звадзіць, казалі хадзіць пад сябе. Гэта адзін з самых непрыемных успамінаў, вельмі цяжка маральна было з-за гэтага.

Я думаю, як добра, што жнівень, бо ноччу на зямлі ляжаць небяспечна, добра, што лета.

Адзін хлопец ляжаў побач са мной. Ён, напэўна, служыў, сутыкаўся з міліцыяй або АМАПам, і казаў, што такога ніколі не было, ніколі так не здзекаваліся з людзей.

Калі складалі пратакол, усім напісалі аднолькавыя, у нас не пыталіся, дзе і як затрымалі. Пыталіся толькі нашы дадзеныя – адрас, прозвішча. Пратакол на мяне склалі за хвіліны тры. Пасля вярнулі ў дворык, мы там сядзелі. Праз гадзіны тры пачалі групаваць па аўтазаках, каго куды везці. Нам не казалі, куды везлі, аказалася, што недзе ў восем раніцы прывезлі ў Чэрвень. Там кожнаму раздалі па матрацу, пасцельную бялізну, размеркавалі па камерах.

Мне далі восем сутак арышту. Суд быў на трэці дзень, 12 жніўня. Доўжыўся хвіліны тры-пяць. Разумеў, што сэнсу тлумачыць штосьці няма, што гэта сістэма, якую не пераканаць.

Хаця цяпер думаю, што, можа, варта было б аспрэчваць. Асудзілі па артыкулах 23.4 і 23.34 – удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве і супраціўленне. У гэты дзень мае сваякі даведаліся, дзе я, і прыехалі да мяне, прывезлі перадачу.

За ўвесь гэты час самае непрыемнае – што не маглі схадзіць у прыбіральню, пакуль ехалі ў аўтазаку. Атрымлівацца, нас не пускалі ў туалет з моманту затрымання, усю ноч, і ўсю дарогу ў аўтазаку. Калі ехалі ў аўтазаку, мы крычалі, прасіліся, бо якое яшчэ выйсце, а на гэта не рэагавалі ніяк.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Педагогу далі яшчэ адзін штраф

## Ён у два разы большы за папярэдні

ВІЛЕЙКА

**У Вілейскім судзе агучылі чарговы прысуд па частцы 1 артыкула 23.34 Кодэкса аб адміністрацыйных парушэннях. Педагог з прэстыжнымі ўзнагародамі, пачынальніца стэм-навучання на Вілейшчыне, мама дваіх непаўналетніх дзяцей Вольга Шостак атрымала штраф 45 базавых велічынь – 1 215 рублёў.**



Вольга ідзе на другі суд у жыцці.

Гэта другі штраф. У пачатку верасня Вольга атрымала 20 базавых – 540 рублёў – таксама за ўдзел у масавых мерапрыемствах. Па першым прыгаворы Вольга падавала абскарджанне ў Мінскі абласны суд, але прысуд пакінулі без змянення.

**16 кастрычніка падтрымаць Вольгу прыйшло больш за 20 вілейчукоў. Суддзя нават пацікавіўся ў прысутных, адкуль такая яўка.**

Пасяджэнне вёў **Канстанцін Калядаў**, абаронцам быў **Андрэй Барташэвіч**.

### Вольга: Я – педагог. Я гуляла ў сваё прафесійнае свята

Суддзя агучыў, што, згодна з пратаколам, складзеным міліцыянерам **Хаценчыкам**, Вольга 4 кастрычніка, каля дзвюх гадзін дня, удзельнічала ў несанкцыянаваным шэсці па вуліцы Першага мая. Суддзя адзначыў, што гэта ўжо другое парушэнне цягам года.

**Вольга з пратаколам не пагадзілася. Яна прынесла шматлікія граматы, якія сведчаць пра яе актыўную і сумленную дзейнасць педагога.**

– Я педагог ад 2003 года. Дзень настаўніка – маё прафесійнае свята. Пасля нараджэння другога дзіцяці ў мяне былі вельмі сур'ёзныя праблемы са здароўем. Пасля гэтага я радуюся жыццю: таму што магу хадзіць, бачыць. І вось у сваё прафесійнае свята, 4 кастрычніка, я павіншавала бацькоў – таксама настаўнікаў. А потым выйшла прагуляцца. Мне падарылі кветкі. Я ішла да сваёй сяброўкі-настаўніцы. Праходзіла каля РАУС.

**Суддзя спытаў, чаму тады ў пратаколе адзначаны ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве. Спытаў, ці ведае Вольга, што па нядзелях на вуліцах збіраюцца людзі, нязгодныя з уладай.**

Вольга адказала, што чула пра такія мерапрыемствы ў Мінску.

### Суддзя: Вы саромеецеся сваіх перакананняў?

– Ці шмат ішло з вамі людзей? Ці былі ў іх бел-чырвона-белыя сцягі? – пытаўся суддзя.

– У мяне кепскі зрок, не магла гэтага разгледзець.

Суддзя:

– Вы саромеецеся сваіх перакананняў? Не хочаце сказаць, што нязгодныя з уладай і таму выйшлі на шэсце?

Вольга:

– Я не саромеюся. У шэсці я не ўдзельнічала. Я выйшла гуляць.



Падтрымаць Вольгу Шостак прыйшлі вілейчукі.

### Паказанні далі сведкі. Абодва міліцыянеры

Паказанні давалі сведкі – работнікі Вілейскага РАУС – **Павел Усціновіч** і **Дзмітры Макатовіч**. Яны адзначалі, што візуальна ведаюць Вольгу Шостак, што бачылі яе 4 кастрычніка. Усціновіч у цывільнай вопратцы сядзеў на лаўцы ў парку і назіраў, як збіраецца група людзей. Пасля разам з Макатовічам суправаджаў шэсце на службовым аўто.

– Чалавек 20-30 пастроіліся з бел-чырвона-белым сцягам і з фотаздымкамі невядомых мне людзей, – адзначыў сведка Усціновіч.

**Абаронца адзначыў, што ў рапарце, які пісаў Усціновіч, зблытаныя паняцці шэсця і мітынгу. Таксама спытаў у сведкі, як канкрэтна пратэставала Вольга.**

– Яна ішла сярод людзей з бел-чырвона-белым сцягам і партрэтамі.

Абаронца:

– Гэта дзяржаўны сцяг…

Сведка:

– У нас іншы дзяржаўны сцяг.

Абаронца:

– Гэта дзяржаўны сцяг 1994 года. І ён назаўсёды застанецца сцягам 1994 года. Тое, што Шостак пратэставала, – гэта вашы здагадкі?

Сведка:

– Дапусцім, так.

Сведка Дзмітры Макатовіч сцвярджаў, што пратэстоўцы збіраюцца кожную нядзелю, да гэтага заклікаюць у тэлеграм-каналах і сацсетках.

Гэты сведка адзначыў, што бачыў Шостак дакладна ў парку. Наконт знаходжання яе на шэсці сумняваўся.

Суддзя і ўдзельнікі пасяджэння праглядзелі відэа. Абодва сведкі пацвердзілі, што гэта відэа з 4 кастрычніка і што на ім ёсць Вольга Шостак.

Пасля дзесяціхвілiннага перапынку суддзя агучыў прыгавор – прызнаў Вольгу вінаватай і прысудзіў штраф 45 базавых.



Тэкст і фота –
Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Пяскова этапавалі на суд у Маладзечна з Жодзіна. Але судзілі праз відэасувязь

**16 кастрычніка ў Маладзечне прайшоў суд над Паўлам Пясковым. Яго абвінавачвалі ва ўдзеле ў вераснёвым шэсці – для гэтага Пяскова спецыяльна прывезлі з ізалятара жодзінскай турмы.**



Павел Пяскоў даваў паказанні праз відэаканферэнцсувязь.

### «Зараз перапынак, працяг будзе ў судзе»

Суд планавалі правесці ў Маладзечанскім РАУС у 15:00. Аднак пасля 15 гадзін людзей каля дзвярэй аддзялення міліцыі на выязное судовае пасяджэнне не пускалі. Хутка ў дзвярах з'явілася судовая сакратарка, якая паведаміла, што разбор ужо пачаўся.

> **– Зараз у нас перапынак. Працяг будзе ў 15:30 у судзе. Ідзіце туды.**

Павел Пяскоў знаходзіўся ў маладзечанскім ізалятары ад 13 кастрычніка. Аб гэтым журналістам «РГ» паведаміла дзяўчына Паўла **Веранікі Французава**.

> **Пяскова спецыяльна этапавалі з жодзінскай турмы, дзе ён знаходзіўся апошнія тыдні пасля прысуду па крымінальнай справе.**

### Працэс

Судовы разбор вядзе суддзя **Алег Лагачоў**.

> **Згодна з пратаколам адміністрацыйнага правапарушэння, 6 верасня Павел Пяскоў удзельнічаў у несанкцыянаваным Маладзечанскім райвыканкамам шэсці.**

Пяскоў не згодны з пратаколам.

Лагачоў прасіў Пяскова ўспомніць, што адбывалася ў той дзень.

– Не памятаю падзеі, якія праходзілі 6 верасня. У мяне не фенаменальная памяць. Пасля абеду я даглядаю бабулю. Магу выказаць здагадку, што тады быў каля вуліцы Маркава.

Па словах Пяскова, ён не ўдзельнічаў у шэсці.

> **– Не абмяркоўваў ніякія палітычныя пытанні. Як і 80 працэнтаў насельніцтва нашай краіны, раблю гэта на кухні, – расказаў Павел.**

Падчас судовага разбору сведкамі выступілі чатыры супрацоўнікі Маладзечанскага РАУС **Віталь Мурза**, **Яўген Кеўра**, **Юры Церашонак**, **Іван Якаўлеў**.

6 верасня Мурза і Кеўра працавалі ў апаратыўна-сітуацыйным штабе ў аддзяленні міліцыі. Супрацоўнікі, што былі на шэсці, паведамлялі пра падзеі Мурзе, а той – кіраўніцтву. Пасля Мурза глядзеў апаратыўны відэазапіс, на якім пазнаў Пяскова.

– Пры праглядзе відэа высветліў, што чалавек падобны да Пяскова. Пазнаў яго па выразе вачэй, хадзе, руках, – сказаў Мурза.

> **Міліцыянер удакладніў, што не ён асабіста пазнаў Паўла Пяскова. У гэтым яму дапамаглі іншыя супрацоўнікі, імёны іх не назваў.**

Яўген Кеўра таксама праглядаў відэазапісы, на якіх пазнаў Пяскова. Па яго словах, у яго няма сумневу, што на відэа быў менавіта Павел.

Юры Церашонак і Іван Якаўлеў у той дзень працавалі на службе па ахове грамадскага парадку.

> **Абодва пазналі Пяскова ў натоўпе, таму што бачылі яго раней. Міліцыянеры правяралі мужчыну, калі той быў пад дамашнім арыштам.**

Пасля допыту абвінавачанага і сведкаў суддзя прагледзеў тры апаратыўныя відэазапісы. Усе сведкі пазналі на іх Пяскова, Пяскоў сябе не пазнаў.

### Рашэнне суддзі за пяць хвілін

Алег Лагачоў прыняў рашэнне па справе Пяскова за пяць хвілін.

> **Суддзя прызнаў Пяскова вінаватым у паўторным парушэнні артыкула 23.34 КаАП.**

Пяскоў атрымаў пакаранне ў выглядзе штрафу ў памеры 50 базавых велічынь.

### Хто такі Павел Пяскоў?

19 чэрвеня ў Маладзечне прайшоў ланцуг салідарнасці ў падтрымку арыштаванага кандыдата ў кандыдаты ў прэзідэнты **Віктара Бабарыкі**. Падчас акцыі супрацоўнікі АМАПа УУС Мінаблвыканкама **Яўген Баранаў** і **Вячаслаў Якавенка** затрымалі ўдзельніка акцыі **Мікалая Алейніка**. Пасля затрымання адбылася сутычка амапаўцаў з людзьмі. На наступны дзень сілавікі затрымалі Паўла Пяскова і **Уладзіслава Еўсцігнеева** па крымінальным артыкуле за гвалт над амапаўцамі.

> **30 верасня Паўла Пяскова асудзілі на тры гады і тры месяцы выпраўленчай калоніі па артыкуле 363 Крымінальнага кодэкса.**

Еўсцігнеева асудзілі на тры гады выпраўленчай калоніі.



Тэкст і фота –
Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Знакамітая пазіцыя-задача «Загадка абата Сааведры»

**Цікавая гісторыя шахматнай пазіцыі абата Сааведры ўжо расказаная ў нумары №37 ад 11 верасня «Рэгіянальнай газеты».**

У гэты раз раскажам паэтапна пра ход шахматнай думкі ў гэтай задачы. У шахматах, як і ў жыцці, адна ідэя плаўна пераходзіць у іншую. Калі ўсё рабіць правільна і лагічна, то атрымліваецца выйграць, альбо не прайграць.

У пачатковай пазіцыі задачы шахматныя аматары таго часу пагадзіліся на нічыю (схема 1).




Схема 1.

Ход белых. Яны рухаюць пешку наперад і хочуць ператварыць яе ў ферзя. Чорныя даюць шах на D6, і на рух караля белых наперад на сёмую гарызанталь, чорныя звязваюць чорную пешку з каралём, ходзяць ладдзёй на D7 і затым аддаюць ладдзю за пешку – дамагаюцца нічыёй (схема 2).



Схема 2.

Калі кароль адыходзіць на лінію C, то чорная ладдзя спускаецца ўніз, на D1. Ператварэнне белага ферзя – сустракаем шахам Лс1 (схема 3).



Схема 3.

**Філідор** знайшоў ідэю перакладу караля на лінію 3 праз с2. У чорных ужо няма магчымасці апусціцца ніжэй – скончылася шахматная дошка, пагражае ператварэнне белай пешкі. Як гэтаму супраціўляцца? (схема 4).



Схема 4.

Дваццаць гадоў чорныя проста здаваліся ў гэтай пазіцыі, пакуль французскі прафесар **Ж. Барб'е** не знайшоў прыгожы рэсурс абароны за чорных: Лd4 (схема 5).



Схема 5.

Высвятляецца, што ператварэнне белай пешкі ў ферзя сустракае ашаламляльная ахвяра ладдзі з ідэяй пата: Лс4 + Ф: с4 пат (схема 6).

І вось тут на арэну выходзіць абат **Сааведра**. Поўная гісторыя ў нумары «Рэгіянальнай газеты» №37 ад 11 верасня. Што знайшоў Сааведра?



Схема 6.

Сааведра разгледзеў ідэю не толькі пата за чорных, але і мата за белых. Кароль чорных сціснуты, стаіць на краі дошкі. Ён вырашае ўсё ператварэнне не ў ферзя і... выйгрыш чорнай ладдзі (схема 7).



Схема 7.

С8-Ладдзя (схема 8).




Схема 8.

Белыя ператвараюць пешку не ў наймацнейшую пастаць ферзя, а ў ладдзю. Тым самым яны пазбягаюць ахоўнага манеўру чорных на пат і праследуюць іншыя мэты: выкарыстоўваюць няўдалае становішча караля і ладдзі чорных. Для пачатку, чорным пагражае мат на а8 белай ладдзёй. Адзіная абарона, аказваецца, Ла4 (схема 9).



Схема 9.

І тут, элегантнае: Кароль b3 завяршае ўражлівы танец белага караля, які пачаўся з поля b6, пралёг па маршруце: b6-b5-b4-b3-c2-b3.

Канчатковая пазіцыя заслугоўвае таксама дыяграмы (схема 10).



Схема 10.

Кароль з поля b3 напаў на белую ладдзю а4, вызваліў вертыкаль для белай ладдзі, якая пагражае даць мат на с1. Абароны ад мата або страты ладдзі ў чорных няма. Белыя выйграюць.

Вось гэту ідэю з ператварэннем пешкі ў ладдзю, цудоўны адыход караля на b3 і знайшоў абат Сааведра, чым і абяссмерціў сваё імя ў гісторыі шахмат.

**Віталь КАЧАТКОЎ.**

ШАХМАТЫ

## Шахматыст Кавалёў адмовіўся гуляць у чэмпіянаце Беларусі з-за патрабавання падпісаць «дадатковае пагадненне» да кантракта

Міжнародны гросмайстар **Уладзіслаў Кавалёў**, гросмайстар **Яўген Падольчанка** і міжнародны майстар **Віталь Мерыбанаў** адмовіліся гуляць у чэмпіянаце Беларусі.

Кавалёў павінны быў прыняць удзел у чэмпіянаце краіны і нават прысутнічаў на лёсаванні, але за некалькі гадзін да старту прыняў рашэнне адмовіцца ад турніру.

Прычынай стала тое, што РЦАП па шахматах і шашках падрыхтаваў «дадатковае пагадненне» да кантрактаў спартсменаў. Паперы раздалі на адкрыцці чэмпіянату Беларусі. У дакуменце была прапісаная забарона на публічныя выказванні без узгаднення з наймальнікам. Кавалёў палічыў гэта парушэннем сваіх канстытуцыйных правоў, подпіс пад пагадненнем не паставіў і ад спаборніцтваў адмовіўся. Разам з Кавалёвым ад удзелу ў вышэйшай лізе адмовіліся **Яўген Падольчанка** і **Віталь Мерыбанаў**.

**Паводле sos-by.team.**

БАСКЕТБОЛ

## Алена Леўчанка: не планую заканчваць кар'еру

Баскетбалістка Алена Леўчанка, якая адсядзела 15 сутак за ўдзел у несанкцыянаваным шэсці, сказала, што пакуль не збіраецца завяршаць кар'еру.

– Цяпер жыву сённяшнім днём, атрымліваю асалоду ад часу з блізкімі. Што тычыцца баскетбола, то многія мяне называюць былой баскетбалісткай. У планах у мяне заканчваць кар'еру няма. Мне трэба было падлячыцца, праверыцца, пагуляць з камандай. Гэта было ў планах і, спадзяюся, будзе. Пастунова прыйду да гэтага. Красоўкі на цвік вешаць не збіраюся, – распавяла Алена ў жывым эфіры ў сацыяльным сетцы «Інстаграм».

**Настасся УТКІНА.**

## Каманды НБА страцілі з-за каронавіруса 694 мільёны долараў

30 камандаў НБА ў суме страцілі каля 694 мільёнаў долараў у выніку 258 адмененых матчаў рэгулярнага чэмпіянату пасля прыпынення сезона ў сярэдзіне сакавіка з-за пандэміі COVID-19.

Як паведамляе The Athletic, найбольшыя страты пацярпелі «Лэйкерэ». Пераможцы сезона-19/20 былі вымушаныя адмяніць 10 дамашніх матчаў, з-за чаго недаатрымалі 52,7 мільёна долараў прыбытку.

Другое месца па стратах заняў «Нью-Ёрк» (45 млн.), трэцяе – «Голдэн Стэйт» (42,5 млн.). Менш за ўсіх пацярпеў «Мэмфіс», які страціў 10,4 млн.

**Паводле theatlantic.com.**

ВОДНАЕ ПОЛА

## Намеснік старшыні федэрацыі воднага пола: «Герасіменя і іншыя дзяўчаты мацнейшыя за многіх мужчын»

Намеснік старшыні федэрацыі воднага пола **Максім Цымбал** падзяліўся меркаваннем пра тое, чым скончыцца ў Беларусі палітычны крызіс. Ён таксама сказаў, што цалкам падтрымлівае беларускіх спартсменак **Раманоўскую**, **Леўчанку**, **Герасіменю** і іншых. Цымбал сказаў, што выезд Герасімені ў Вільню і кіраўніцтва Фонду спартыўнай салідарнасці не асуджае.

– Не магу даць прагноз па датах, але перакананы ў адным – дэмакратычнае грамадства ніколі немагчымае звонку. Нельга пабудаваць дэмакратыю зверху. І таму пацвярджэнне ўвесь Блізкі Усход. Там міжнародная супольнасць спрабавала пабудаваць дэмакратычнае грамадства пры дапамозе грошай – не выйшла, пры дапамозе зброі і вайны – не выйшла. Дэмакратыя нараджаецца знізу.

Цымбал лічыць, што менавіта цяпер беларусы сталі беларусамі:

– Назад дарогі ўжо не будзе, людзей назад на кухню з размовамі шэптам не загнаць. Паўночная Карэя магчымая толькі ў паўночнакарэйскім грамадстве, а тут яно іншае – міралюбная, цывілізаваная.

**Паводле by.tribuna.com.**

ФУТБОЛ

## «Маладзечна» перамагае «Асіповічы»

17 кастрычніка маладзечанскія футбалісты згулялі першы тур у фінальным этапе другой лігі. Сапернікамі маладзечанцаў былі футбалісты з «Асіповічаў».

Маладзечанцы лідзіравалі на працягу ўсёй гульні. Матч скончыўся з лікам 5:3 на карысць зялёна-белых. Галы забівалі **Мікіта Мятліцкі** (двойчы), **Дзмітры Сярогін**, **Ігар Тальковскі**, **Аляксандр Красноў**. У камандзе сапернікаў адзначыліся **Дзмітры Хіжняк**, **Уладзіслаў Лапко**, **Уладзімір Бешта**.

Наступны матч ФК «Маладзечна» згуляе 24 кастрычніка з «Шахцёрам» з Петрыкава. У турнірнай табліцы маладзечанцы займаюць другое месца.

**Настасся УТКІНА.**

## 11 лістапада зборная Беларусі правядзе спарынг супраць Румыніі

У рамках падрыхтоўкі да заключных матчаў Лігі нацый УЕФА сезона 2020/2021 нацыянальная каманда Беларусі правядзе таварыскі матч са зборнай Румыніі.

Паядынак адбудзецца 11 лістапада ў Бухарэсце на стадыёне «Ілле Аана» і пачнецца ў 21:00 па беларускім часе.

**Паводле football.by.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Таварыш па прафесіі, па рабоце, па вучобе.
3. Кароткая аповесць ці апавяданне з нечаканым фіналам.
4. Выцягнутыя, з рагавым пакрыццём, бяззубыя сківіцы ў птушак і некаторых іншых жывёл, прыстасаваныя для яды.
7. Існуюць праекты, якія дазваляюць лавіць гэту з'яву прыроды і выкарыстоўваць яе энергію. Але пакуль не стварылі акумулятар, які можа за імгненне змясціць такую колькасць энергіі.
11. Сігнал трывогі ў выпадку бедства.
13. Экалагічны рух, вядомы пад абрэвіятурай VHEMT, прасоўвае ідэю, што адзін від з'яўляецца экзатычным захопнікам планеты і яго папуляцыя выйшла з-пад кантролю. Гэты від пагражае экасістэме Зямлі, таму павінны спыніць размнажэнне.
15. Віктар Казько: «Куды на свеце палкай не кінь, трапіш у беларуса. Ды не абы-якога, выбітнага сярод тамтэйшых людзей. Бо чалавек і тут, і там, і на тым свеце – чалавек. Толькі ў беларуса … няма, сірата ён дома і ў свеце сірата».
16. Гэта кветка – сімвал Японіі. На вокладцы японскіх пашпартоў размешчаная выява менавіта яе. А калі гэта кветка сарваная ў дзявяты дзень дзявятага месяца, то валодае магічнай сілай.
17. Цэнтральная частка атама.
18. Папрок, незадавальненне.
19. Вядомая фраза Людовіка XIV «Мне ледзь было не давялося чакаць» узнікла тады, калі яна прыбыла дакладна ў час.
23. Туды восенню хаваюцца матылькі.
24. Ніжняя патоўшчаная частка дрэва, расліны, якая прылягае да кораня.
25. Кавалак тканіны, якой абмотваюць ногі, перш чым абуцца.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Прыстасаванне для аўтаматычнага адмервання або адважвання сыпкіх, вадкіх, газападобных рэчываў.
5. Радыёзавод у Маладзечне, што меў шырокую вядомасць у савецкія часы.
6. Час ад усходу да заходу сонца.
8. Прылада для падымання цяжараў на невялікую вышыню.
9. Гаспадар.
10. Нейкі чалавек, нейкая істота; невядома хто.
12. Строй.
14. Несумяшчальнае з лагічным мысленнем.
17. Самая моцная мышца.
20. Моцны рэзкі штуршок, сутыкненне.
21. Краіна, якая з'яўляецца лідарам па колькасці спажытай электраэнергіі.
22. Частка неба над лініяй гарызонту.
23. Імператар у «Свяшчэннай Рымскай імперыі» і Германскай імперыі.
24. У шведскім горадзе Хельсінгбарг гэта ўстанова ацяпляе 60 тысяч дамоў – забяспечвае 10% энергіі, якія выпрацоўвае мясцовая энергетычная кампанія.
26. Сканцэнтраванасць думак, зроку, слыху.
27. У народных павер'ях – злы або добры дух, які жыве ў кожным доме.

## Адказы на крыжаванку з №42

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Доўг. 3. Ажына. 6. Вінаград. 7. Сена. 8. Кітай. 9. Тэніс. 10. Пенальці. 12. Замужам. 14. Абраз. 18. Андэрсан. 19. Абдаць. 20. Прыгажосць. 21. Агарод. 24. Соль. 27. Слон.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Грыбы. 4. Чарапаха. 5. Ватсан. 8. Космас. 9. Турма. 10. Паэт. 11. Аквавіта. 13. Нуль. 15. Люстэрка. 16. Бездань. 17. Рубік. 22. Аелі. 23. Палессе. 25. Млосць. 26. Цягнік.

## ● ГАРАСКОП НА 23-29 КАСТРЫЧНІКА


**АВЕН.** У гэты перыяд у вас будзе неабходнасць закупіць патрэбныя рэчы. Кампанію вам складуць сябры. Дзякуючы ім шопінг не толькі пройдзе хутчэй, але і больш эфектыўна. Акажацца, што вашы сябры добра разбіраюцца ў тым, што вы збіраецеся набыць.


**ЦЯЛЕЦ.** Вам будзе падавацца, што ўсе замінаюць і адцягваюць увагу. Хаця на самой справе вам варта перагледзець арганізацыю свайго рабочага дня і выправіць памылкі. Вы адразу зразумееце, што новы парадак нашмат вам дапамагае і эканоміць час.


**БЛІЗНЯТЫ.** Зоркі раяць больш увагі надаць харчаванню. Ад гэтага будзе залежаць як самаадчуванне, так і эфектыўнасць у працы. Не лішнім будзе здаць аналізы і параіцца з доктарам наконт курса вітамінаў і мікраэлементаў.


**РАК.** У гэты перыяд зоркі раяць вам не спяшацца. Некаторыя справы лепш адкласці на дзень-два. Можа, вам будзе падавацца, што лепш за ўсё выконваць задачы як мага хутчэй, але ў гэты час такая логіка працаваць не будзе.


**ЛЕЎ.** У вас з'явяцца прывабныя перспектывы ў кар'еры. У вас можа ўзнікнуць сур'ёзны намер змяніць жыллё або працу. Пастарайцеся не спяшацца з рашэннем.


**ДЗЕВА.** З усёй вастрынёй перад вамі паўстануць пытанні, звязаныя з фінансамі. І вырашаць іх давядзецца адначасова і хутка, і эфектыўна. Могуць узнікнуць праблемы з партнёрам з-за вашай загружанасці на працы. Давядзецца размяркоўваць час такім чынам, каб вас хапала на ўсё.


**ШАЛІ.** У вас будзе напружаны час, які прынясе вам задавальненне – усё нібыта будзе само складвацца, прычым найлепшым чынам. Выканайце не толькі тыя задачы, якія неабходна выканаць зараз, але і падрыхтуйце працу наперад.


**СКАРПІЁН.** Верагодныя маніпуляцыі на працы, таму дакладна трэба разумець, якія мэты ставіце перад сабой вы і якім чынам хацелі б іх дасягнуць. Магчымыя спрэчкі з партнёрам. Давядзецца прыкласці намаганні, каб супакоіць каханага чалавека.


**СТРАЛЕЦ.** Зоркі абяцаюць перспектыўны перыяд у каханні. Якое б неверагоднае спатканне вы б ні задумалі, вам усё будзе спрыяць. А яшчэ падумайце над тым, як зрабіць, каб грошы працавалі на вас.


**КАЗЯРОГ.** Спрыяльны час, каб праводзіць самыя складаныя перамовы. Вы зможаце дамовіцца і наконт нерухомасці, і адукацыі дзяцей, і сямейных узаемаадносін. Прычым на выгадных умовах.


**ВАДАЛЕЙ.** Магчымы шэраг дробязей, якія будуць замінаць. Можаце забыць патрэбную рэч, праліць каву ці яшчэ штосьці. Затое цалкам верагодны нечаканы прыбытак, які будзе грэць вам душу і дапаможа забяспечыць сябе тым, што вам неабходна.


**РЫБЫ.** Кіраўніцтва будзе патрабаваць ад вас вельмі шмат працы, і вы зможаце ўсё выканаць. Тым не менш настрой у вас будзе бадзёры. Не падманвайцеся на гэты конт, абавязкова адпачывайце і высыпайцеся. Ад якасці сну будзе залежаць вельмі многае.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4 | | | 7 | 3 | 9 | | | 2 |
| | | | 2 | | 5 | | 4 | |
| | | | 6 | 1 | | | 9 | |
| | | 1 | | | | 8 | 2 | 3 |
| 5 | | | | | | | | 7 |
| | 3 | | 1 | | | 6 | | |
| | | | 9 | 7 | | | 6 | |
| | | 4 | 8 | | | 5 | | |
| | | | 4 | | 1 | | 3 | 8 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY


У рэдакцыі «Рэгіянальнай газеты» часова змяніліся тэлефонныя нумары!

Аддзел інфармацыі: (8-0176) **53-78-05**

Аддзел рэкламы: (8-0176) **53-78-04**

Рэдакцыя «Рэгіянальнай газеты» знаходзіцца ў Маладзечне па Вялікім Гасцінцы, 143 (ГЦ «Тройка», пяты паверх).

Новы нумар офіса – **526.**

## Як у ільянскім садку мам віншавалі

ВІЛЕЙКА

**Ад 12 да 16 кастрычніка ў нашым садку праходзілі мерапрыемствы, прысвечаныя Дню маці.**



Выхаванцы з малюнкамі для мам.

Дзеці і іх бацькі паўдзельнічалі ў фотавыставе на сайце ўстановы «Люблю сваю матулю», выставе творчых работ «Залатыя маміны рукі».

Выхаванцы старэйшых груп выхавальнікаў **Наталлі Данісевіч** і **Наталлі Шэрай** афармілі выставы малюнкаў «Мілай матулі партрэт», «Мая дружная сям'я», а малодшыя ўпрыгожвалі для мам сукенкі на занятках па аплікацыі.

Шмат творчасці праявілі выхавальнікі пры афармленні фотазоны, арганізаванай да свята ў фае дзіцячага садка. Была і скарбонка пажаданняў, з якой кожнае дзіця выбірала пажаданне маме.

У рамках тэматычнага тыдня з дзецьмі праявілі гутаркі, гульні, падчас якіх дашкольнікі расказвалі пра сваіх мам, пра тое, дзе яны працуюць, чым займаюцца дома, як клапоцяцца пра дзяцей.

Усе дзеці падрыхтавалі падарункі сваім мамам. А фінальным акордам стаў відэаролік «Размовы пра маму» на сайце садка.

**Алена РУДНІЦКАЯ,**
**намеснік загадчыка па асноўнай дзейнасці Ільянскіх ясляў-сада.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Як вы лічыце, ці трэба ў Беларусі смяротнае пакаранне?



**Уладзімір:**
– Той, хто заслугоўвае, той гэта атрымлівае. Я за, пакаранне павінна быць незваротным.



**Анатоль:**
– Я лічу, што трэба. Бо бандытаў пасадзяць, а пасля яны выйдуць – гэта ненармальна, трэба жорстка іх караць.



**Віталь:**
– Стаўлюся адмоўна, як ва ўсёй Еўропе. Бо могуць быць судовыя памылкі, тут усё непрадказальнае.



**Вольга:**
– Бывае такі чалавек, якога выправіць ужо немагчыма. Я стаўлюся станоўча, такіх людзей не павінна быць, іх мала, але яны ёсць.



**Раіса:**
– Не, не трэба. Таму што чалавек створаны для таго, каб жыць, а калі ён у чымсьці вінаваты, то ён павінны жыць да таго моманту, пакуль Бог дае яму такую магчымасць, але ў ізаляцыі.



**Таццяна:**
– Адмоўна стаўлюся, гэта вельмі жорстка.



**Віктар:**
– Не, напэўна. Навошта гэты гвалт? Трэба спакойна жыць.

**Падрыхтаваў Аляксей КАСТОЎСКІ.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Маладзечанец атрымліваў заробак на банкаўскую картку. Пасля звольніўся з працы, некалькі месяцаў заробку няма, але на картку прыходзяць смс-паведамленні аб спісанні грошай за карыстанне карткай. Ці правільна гэта? Няўжо трэба плаціць за картку, калі ёй не карыстаешся, абураецца мужчына. Спецыялісты банка пракаментавалі сітуацыю.**



## 24 кастрычніка, субота

**Вецер:** паўночна-ўсходні, 1-2 м/с




Усход 7.59
Захад 17.54
Даўжыня дня 7.55

Усход 16.15
Захад –
Месяц расце

**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. АШМЯНЫ**

Мінімальная тэмпература -9,6°С у 2014 годзе
Максімальная тэмпература +16,8°С у 2006 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 7,8 мм у 2002 годзе

Паводле meteoinfo.by.


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№43 (1330) 23.10.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1765. Падпісана ў друк у 9.00 22.10.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама), **53-78-05** (журналісты), **53-78-06** (факс), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.**
Web: **https://rh.by.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.